Paśla kanfiskaty.

# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi

…„Падыймайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."
ЯНКА КУПАЛА.





№ 13 (112) Vilnia, 16 Kastryčnika 1937 h. Hod IX.

UVAHA! NOVAŚĆ! UVAHA!

# Cennyja premii dla akuratnych padpiščykaŭ „Šlachu Moładzi"!

**Niabyvałaja akazija zusim darma vyjhrać hadzińnik, sekatar, nažy da ščapleńnia dreŭ, cennyja knižki i inš. rečy.**

Administracyja „šlachu Moładzi" pastanaviła sioleta vosieńniu raździalić miž akuratnych svaich padpiščykaŭ premii za ichniuju dbajnaść. Premii buduć padzieleny darohaj losavańnia, da jakoha buduć dapuščany tolki tyja padpiščyki, katoryja apłacili, abo jašče apłaciać padpisku na „šlach Moładzi" za hety sioletni 1937 h. (usiaho tolki dva złoty).

## Śpis hałaŭniejšych premijaŭ:

1. Dobry hadzińnik na ruku.
2. Sekatar (nožnicy da abrazańnia halinak dreŭ).
3. 2 nažy da ščapleńnia dreŭ.
4. „Гісторыя (Беларускай) Крыўскай Кнігі" В. Ластоўскага, якая ў прадажы каштуе 10 зл.
5. „Пчолы" — кніга аб пчалаводзтве Пачопкі.
6. „Гісторыя Беларускай Літаратуры" М. Гарэцкага.
7. „Географія Беларусі" Смоліча.
8. „Хрыстаматыя Беларускай літаратуры" Дварчаніна.
9. Hramafonnaja plitka z biełaruskim narodnym tancam «Lavonicha» i z pieśniaj „A ŭ lesie, lesie" ŭ vykanańni słaŭnaha tenara M. Zabejdy-Sumickaha.
10. Partret biełaruskaha paeta M. Bahdanoviča.

Dyk chto choča być u liku dapuščanych da losavańnia premijaŭ, niachaj zaraz pastarajecca apłacić padpisku. Chto-ž padpiski nie apłacić, toj nia budzie pryjmać udziełu ŭ losavańni i tamu vysyłka „šlachu Moładzi" budzie strymana!

Treba pamiatać, što svaja presa, svaje časapisy, najlepš baroniać i infarmujuć. Tamu, biełarusy pavinny padtrymlivać svaju presu i pašyrać jaje, zdabyvajučy novych padpiščykaŭ. Biełaruskaja moładź pavinna pieradusim vypisvać i pašyrać „ŠLACH MOŁADZI"!

*Administracyja „Šlachu Moładzi."*

# Шлях Моладзі

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Год IX. Вільня, 16 Кастрычніка 1937 г. №13 (112).

*Вера Былінка*

## Восень

Моцна сонца цалавала
Дрэўкі, кусьцікі язьміну,
Ўсё з пяшчотаю ўвабрала
У залацістую тканіну.

Прызадумалася восень,
Ткучы павуцінэчкі,
Па палёх кладзе-разносіць,
Ўплётвае галінaчкі.

Ціха ў небе, хмаркі шэры
Тонуць і хаваюцца,
Неба сіняе бяз меры
Моўчкі усьміхаецца.

Ў лесе гожа так, бясконца,
Вакол чырвань — золата,
Усё заліта ясным сонцам.
Б'ецца сэрца молатам.

Ах, як лёгка, ціхнуць болі,
Пяяць песьні хочацца,
І здаецца, што ўжо болей
Гора ня узможацца.

---

*Натальля Арсеньнева*

* * *

Толькі ўвечар жыву я душою узьлётнай,
Аб якой ў дзень шумлівы ня помню зусім.
І зайздросьціць гатова я качкам дзікім,
Што ўзьбіваюцца з крыкам над сонным балотам
Рухам вольным і дзіўна мяккім.

Я-б ляцела за імі над гладзяй зялёнай,
Шэрым крыльлем касіць парудзелы чарот,
Ўсіх пазбыцца-б хацела чаканьняў, нягод
Як той дзень, што ў бяздонныя, зорныя тоні
Адплывае над плесьняй балот.

Але тое, што збуджана — сьцішыць ня можна,
Проціў волі, а ўвечары сэрца гарыць,
Проціў волі усё лёгкім здаецца згары,
Толькі ў цесным жыцьці, як за кратай астрожнай
Гэтак цяжка й няўдзячна тварыць!

# Патрэба арганізацыі беларускае моладзі

Ня гледзячы на тое, што беларуская моладзь у Польскім Гаспадарстве прадстаўляе даволі вялікі лік, дагэтуль аднак арганізацыі свае ня мае. Але віна тут ня моладзі. Беларуская моладзь ня раз ужо рабіла спробы й натугі сарганізаваньня й залегалізаваньня свае культурна-асьветнае арганізацыі. І так, у 1930 г. мела паўстаць Т-ва Беларускае Моладзі „Будучыня", пасьля грам. Ул. Казлоўскі стараўся стварыць беларускую спартовую арганізацыю „Гайсак". Спробы гэтыя спыніла адмова адміністрацыйных уладаў, якія статутаў гэных арганізацыяў чамусьці не зацьвердзілі. Ад няўдачаў моладзь аднак не апускае рук. Віленская маладая інтэлігенцыя йзноў прыступае да тварэньня арганізацыі бел. моладзі.

Чаго-ж бел. моладзь хоча?

Беларуская моладзь хоча працаваць на культурнай ніве, хоча мець сваю арганізацыю, хоча супольнымі сіламі змагацца з цемрай і йсьці разам з усім культурным сьветам.

Сяньня навука, сьвятло мусяць быць даступныя для ўсіх. Людзкасьць супольнымі натугамі здабыла веду, культуру і яна лучыць людзей розных нацыяў і расаў. І зусім зразумела, што і беларуская моладзь імкнецца да веды і культуры. Хоча чытаць кніжкі, часапісы, слухаць рэфэратаў, ладзіць прадстаўленьні, хоча пазнаваць сьвет, вучыцца і высоўваць з пасярод сябе таленты на славу навукі і мастацтва. Беларуская моладзь хоча быць сябрам сям'і культурных народаў. Дзеля гэтага побач школаў мусіць быць густая сетка культ.-асьветных гурткоў, якія памагалі-б моладзі ў далейшым разьвіцьці.

Праўда, існуюць у нашым Краю культурна-асьветныя арганізацыі польскае моладзі, але яны, карыстаючыся ў сваей працы выключна польскай мовай, для нашае моладзі недаступныя, далёкія. І прыродная рыса людзкога характару цягне кожнага чалавека да свайго роднага. Кожны беларус нармальна і належна можа вучыцца толькі пабеларуску.

Існуюць у Польскім Гаспадарстве, побач польскіх арганізацыяў моладзі і арганізацыі моладзі украінскае і жыдоўскае, а беларуская моладзь свае арганізацыі ня мае, хоць яе „мяродайныя чыньнікі" называюць нават братняй. Калі-ж сапраўды гэтае брацтва выявіцца на дзеле?!

А трэба сказаць, што гаспадарственныя законы дазваляюць беларусам мець свае арганізацыі, і што кожная перашкода ў тварэньні беларускае арганізацыі моладзі, як і агулам беларускіх арганізацыяў, выклікае сярод беларусаў незадаваленьне. А гэта стварае вельмі падатны грунт для розных фэрмэнтаў...

За патрэбай існаваньня беларускае культурна-асьветнае арганізацыі прамаўляе так-жа інтэрас грамадзкае маральнасьці. Моладзь, як найбольш жывая й творчая частка грамадзянства, мусіць у чым-небудзь выладаваць сваю энэргію. Калі няма культурнае працы, энэргія моладзі ськіроўваецца ў рэчышча зьдзічэньня, разбою, п'янства і дэмаралізацыі. На гэта маем кожны дзень масу доказаў з жыцьця. Думаем дзеля таго, што і не ў інтарэсе гаспадарства разьвіцьцё нажоўніцтва і дэмаралізацыі.

Вось-жа, дзеля дабра культуры і поступу, мы хочам мець сваю беларускую культурна-асьветную арганізацыю моладзі.

# Adkryćcio pamiatnika Jadvihinu Š.

Pamiatnik viedamamu našamu piśmienniku i paetu Jadvihinu Š.— Antonu Lavickamu ŭžo hatovy. Adkryćcio i paśviačeńnie pamiatnika na mahile paeta adbudziecca ŭ aŭtorak 2-ha listapada (na Zaduški) sioleta a hadzinie 4-taj (16) pa paŭdni. Paśla, a hadzinie 8-maj uviečary, u zali Biel. Narodnaha Abjednańnia (Vilnia, Zavalnaja 1), adbudziecca ŭ čeść Jadvihina Š. uračystaja akademija. Pierad hetym 30-ha kastryčnika ŭ kaściele śv. Mikałaja ŭ Vilni, a hadz. 7-maj rana adbudziecca žałobnaje nabaženstva za spakoj dušy śv. p. Antona Lavickaha.

Na ŭračystaść hetuju zaprašajem pieradusim tych, što svaimi achviarami pryčynilisia da budovy pamiatnika, a tak-ža zaprašajem usio biełaruskaje hramadzianstva. (Asobnyja zaprosiny rassyłacca nia buduć).

Dalej na budovu pamiatnika Jadvihinu Š. achviaravali: dr. B. Hrabinski 10 zł, Biełaruski Kredytny Kooperatyŭ u Vilni 10 zł., Mik. Bahatkievič 1 zł., Kazimier Pakulnievič 20 hr., V. Malej 50 hr.

Usim achviaradaŭcam ščyra dziakujem.

Dziela taho, što na pakryćcio ŭsich koštaŭ budovy pamiatnika jašče nie chapaje bolš 50 zł., usich chto tolki moža i kolki moža prosim pamahčy pakryć hetuju sumu, prysyłajučy achviary.

*Red. Kalehija „Šlachu Moładzi."*

---

## Pry vasieńniaj pracy ŭ poli...



# Z XXI-ha Prociharełačnaha Mižnarodnaha Kanhresu

Złybiadaŭ roznajakich šmat na šlachu adzinak paasobnych dy hramadztvaŭ ludziej. Biazumoŭna da adnaje z najhoršych złybiadaŭ, možna było-b kazać pošaści, biazlitasna trymajučaje ŭ napružańni čałaviectva cyvilizavanaje, nałežyć h a r e ł k a.

Harełka — heta vorah i zahuba čałavieka — čytajem u kniž kach, brašurach, afiškach. Harełka—heta praklon kožnaha dobraha pačynu ŭ napramku naładžańnia lepšaje haspadarki. Harełka—heta krynica raspusty i złačynstva—čujem, ci prynamsia pavinny pačuć ad nastaŭnika, ad duchoŭnika, dy ad kožnaha śviadomaha i razumnaha čałavieka.

Henyja praŭdy zrazumieli kali nia ŭsie ludzi, dyk prynamsia lepšyja z ich, i pačali daŭno ŭžo arhanizavanaje zmahańnie z harełkaju, jak z voraham adzinki i adnačasna voraham hramadzkim, narodnym, dy treba było-b dumać i voraham dziaržaŭnym. Apošni skaz u adnosinach da dziaržavy vymahaje ahavorki dziela taho, što jakha možna padumać, što dziaržava paddzieržyvaje harełku; dziaržava maje manapol, ad jaje zaležyć ci narod budzie pić i kolki jon budzie pić. Dziaržava, jak kazaŭ vysoki polski ŭradoviec, adnačasna čałaviek navuki (Doc. Dr. Šulc), imkniecca da taho, kab narod najbolš piŭ, bo dziaržava na harełcy zarablaje bolš, čymsia na jakim inšym pradmiecie. Dziakujučy takoj sytuacyi da 80 prac. viaźniaŭ z našych ziemlaŭ heta samahonščyki. Samahonščyki kankurenty skarbu j manapolu. Kali-b pili manapolku, nichto ich nie čapaŭ-by...

Prablemaju harełki (alkaholu) zajmajucca roznajakija adumysłovyja ŭstanovy i ludzi navuki. Adny zajmajucca lekarskaju staranoju prablemy, daśledujuć ci alkahol sapraŭdy škodny i jakim orhanam cieła i h. d., adnym słovam zajmajucca śledamkami harełki na ciele tych, što pjuć.

Inšyja zajmajucca daśledavańniem, jak harełka dzieić na patomstva pjanicaŭ. Henaja halina navuki zaviecca *eŭgenikaju*.

Inšyja jašče zajmajucca ekanamičnaju staranoju alkaholizmu. A jašče inšyja—statystyčnaju,—daśledujuć, jakija ŭmovy spahadajuć raspaŭsiudžvańniu pjanstva, jakija suadnosiny harełki da zładziejstvaŭ, razbojaŭ i h. d.

Na hetym miescy chacieŭ-by pajaśnić, što sučasnaja navuka alkaholikam, pjanicaju zavie nia tolki tych, što nia vychodziać z karčmy ci restaranu, što napivajucca da biaspamiaci. Alkaholikam budzie „buržuj“, jaki kožny dzień, kab achvatniej źjeść miasa, pje adnu-dźvie čarki pierad abiedam. Alkaholikam budzie i toj, što prapivaje apošni hroš, chacia dzieci ŭ chacie hałodnyja i nia majuć u što apranucca, kab pakazacca pierad ludźmi. Chaj taki čałaviek pje nia kožny dzień, chaj jon biarecca za čarku adzin raz na tydzień. Jon niavolnik atruty, dla jaho niama abaviazku, jon niedastupny marali. Dyk chacia mo' ludziej i nia šmat napivajecca, alkaholikaŭ adnak šmat.

I voś bolš užo saraka hadoŭ sabirajucca mižnarodnyja kanhresy z pradstaŭnikoŭ tych, što zrazumieli ŭsiu škodnaść i niebiaśpieku harełki, dziela supolnych naradaŭ, dziela abmienu dumkami, z metaju adnačasna padrachavać ździejśnienyja pieramohi i zdabyčy na vielmi ciažkim šlachu zmahańnia. Na takich kanhresach prablema alkaholu razhladajecca ŭsie-

bakova z metaju znajści lepšy sposab baraćby, bo niama nijakich sprečak siańnia ab tym, ci harełka škodnaja. Biassumliŭna harełka škodnaja i zdaroŭju i dušy čałavieka.

Na takich kanhresach byvaje narodu šmat — ad niekalki sot da niekalki tysiač čałaviek. U takoj vialikaj hramadzie niemahčyma było-b spakojna pracavać. dy i nie mahli-b usie vykazać taho, z čym pavodle ich treba było-b padzialicca z inšymi. Dziela hetaha kanhres dzielicca na niekalki sekcyjaŭ prykładam sekcyja lekarskaja, hramadzkaja, ahulnaja i h. d.

Čarhovy taki kanhres XXI byŭ sioleta ŭ Varšavie ad 12 da 17 vieraśnia. Narodu było pryjechaŭšy šmat, niešta bolš dźvioch tysiač. Pryjechali nia tolki z usich kutkoŭ Eŭropy, a byli ludzi i z Ameryki i z Azii. Byli tam lekary, psycholohi, fizyjolohi, hramadzkija dziejačy, nastaŭniki, pradstaŭniki roznych vieravyznańniaŭ. Sioletni kanhres vyznačaŭsia z inšych tym, što było na jom šmat katalickaha duchavienstva, što navonki prajaviłasia, miž inšym, u naładžańni adumysłovaha I-ha mižnarodnaha prociharełačnaha katalickaha kanhresu.

Inšaja asablivaść sioletniaha kanhresu heta prysutnaść na jom upiaršyniu ŭ arhanizavanaj formie šmatlikich hrupaŭ moładzi. Henaja prysutnaść moładzi, možna kazać, była adnym z najpryhažejšych mamentaŭ kanhresu.

Na adumysłovym ahulnym pasiedžańni delehacyi moładzi: finskaje, łatyskaje, francuskaje, niamieckaje i inšych sustračalisia z pradstaŭnikami adychodziačaha pakaleńnia pry entuzyjaźmie ŭsich prysutnych. Pacałunkam najstarejšaha z prysutnych sa švajcarskaju delehatkaju (miž inšym prystojnaju dziaŭčynaju) była padčyrknuta patreba moładzi na henym froncie prociharełačnym. I biazumoŭna tolki siła, śviežaść, viera moładzi moža być zarukaju pieramohi.

Adzin z misyjanaraŭ, što pracavaŭ sorak hadoŭ u centralnaj Afrycy, kazaŭ u pramovie, što šmat lahčej pracavać z dzikimi narodami, čymsia na froncie prociharełačnym. Varšaŭski kanhres byŭ pakazalnikam henych ciažkich umovaŭ. Z adnaje starany pradstaŭniki navuki dakazyvali, što alkahol vielmi škodny čałavieku i žyviole, što ad harełki chvareje ŭ pieršuju čarhu najbolš važny i dalikatny orhan čałavieka—mozh. Harełka pakidaje škodnyja śledamki na dzieciach alkaholikaŭ, jany kiepska hadujucca, pamiž imi mnoha jość durnavatych i chvoraviekich ludziej.

Adnačasna dakładčyki, asabliva na sekcyi hramadzkaj, padčyrkivali, što pakul dziaržava nia stanie na šlach zmahańnia z harełkaju, datul na žal rezultaty nia buduć vialikimi. Usie padčyrkivali, što chacia prohibicyja ŭ Złučanych Štatach Paŭnočnaje Ameryki končyłasia nia zusim słaŭna, adnak tolki vykłučna ŭ takoj płoščy zakonadaŭstva dziaržaŭnaha ždže nas vyzvaleńnie ad harełki. Treba spadziavacca, što ŭśviedamleńnie ahulnaje, asabliva siarod moładzi, idei procialkaholnaje daviadzie i dziaržavy na heny šlach i mo' tady čałaviectva budzie svabodnaje ad strašnaje pošaści, što jdzie z harełkaju ŭ chatu.

**Dr. St. Hrynkievič.**



# Восеньню

*Прысьв. З.*

Восень штораз больш умацоўваецца. Усходнія й заходнія вятры дуюць мацней і халадней, зрываючы розна-калёрную вопратку дрэваў. Сухія-ж і падгніўшыя галіны з трэскам валяцца на зямлю. Адвечныя дубы, не паддаючыся ветру, быццам на злосьць яму ськідаюць жалуды, каб з іх вырасла новае маладое пакаленьне. — Маладняк баронячыся хіляецца ў розныя бакі і таксама не паддаецца, узмацоўваючы свае сілы.

Апусьцеўшыя нівы рупная рука сяйбіта йзноў засеяла, і хоць холадам вее, рунь ужо зелянее.

Пералётныя птушкі цягнуць шнурамі дзесь далёка... ў цёплыя краі. Сумна будзе бяз іх. Аднак нельга ім тут астацца. Нельга іх браць у клетку, адбіраць свабоду... марозіць... дзяржаць пад прымусам...

Але пройдзе восень, пройдзе і сьцюдзёная зіма, і прыйдзе вясна... Закрасуюць беларускія палеткі, птушкі вернуцца йзноў да нас, а маладняк — ён далей будзе расьці, узмацняцца, йсьці ў гару да сонца!...

*П.*

# Крыху з статыстыкі

## Аб нацыянальным складзе Польскага гаспадарства.

Польскае гаспадарства, як ведама, *не аднанацыянальнае, але многанацыянальнае.* У Польскім гаспадарстве, апрача Палякоў, жывуць на сваіх этнографічных тэрыторыях компактнай (суцэльнай) масай: Украінцы, Беларусы, Літоўцы, якія называюцца ў Польшчы тэрыторыяльнымі нацыянальнымі меншасьцямі; так-жа ня мала ёсьць і рассеяных па ўсей дзяржаве народных меншасьцяў, як Жыды, Немцы, Расейцы і інш.

Апошняя перапісь насельніцтва, якая была праведзена 9.XII. 1931 г., выказвае ў Польшчы бяз войска 31.915.800 асоб насельніцтва. З гэтага ліку 21.993.400 (68,9 прац.) людзей падало за сваю родную мову — польскую, а рэшта 9.922.400 (31,1 прац.) — іншыя мовы.

З гэтага відаць, што ў Польскім гаспадарстве толькі дзьве траціны ёсьць Палякоў, а адна траціна ўсяго насельніцтва — *непалякі.*

Найбольшая народная меншасьць у Польшчы—гэта Украінцы. Другая лікам — Беларусы; на раўні з Беларусамі стаяць Жыды; пасьля йдуць Літоўцы, Немцы, Расейцы і інш.

* * *

Справа народных меншасьцяў у Эўропе вельмі разгалошаная. У міжнародным праве створана г. зв. ахарона народных меншасьцяў. Гаспадарствы забавязаліся даць поўную свабоду народным меншасьцям на разьвіцьцё іхняй народнай культуры і прызнаваць іх роўнапраўнымі грамадзянамі дзяржавы. Польшча таксама ўзяла на сябе гэткі абавязак адносна сваіх народных меншасьцяў. Апека над выкананьнем гэтых забавязаньняў даручана Лізе Народаў.

Такім чынам, справа народных меншасьцяў ня ёсьць прыватнай справай аднае дзяржавы, але справай міжнароднага значэньня. Іншая рэч, што ня ўсюды і ня ўсе, на жаль, гаспадарствы свой абавязак адносна нац. меншасьцяў належна ацэньваюць і выконваюць.

*Я.*

# Да беларускіх дзяўчат

Апошнім часам вёска наша, а асабліва дзявоцкая моладзь, проста на стрым-галоў гоніцца за гарадзкой модай. Ісяньня на вёсцы стараюцца шыць сукенкі, насіць паўчаравічкі абавязкава такія, якія носяць у месьце. Дзеля гэтага і на вёсцы адна мода замяняе другую і так без перастанку. Гэныя дагонкі за модай даводзяць часта нашых сялян, бацькоў, да трагічнага матар'яльнага палажэньня. Апрача таго, нашыя харашухі, гонячыся бязкрытычна за модай, часта моцна „перасольваюць" і выходзіць замест хараства—брыдота.

Тут хачу сказаць пару слоў аб ужываньні касмэтыкі. Усе мы бачылі, як у местах дзяўчаты нахварбоўваюць, малююць сабе на чырвона губы, пазуры, ды накладаюць цэлыя пуды пудры: як там йдзе гэта для меставых дзяўчат, ня буду гаварыць, але адносна такіх зьяваў на вёсцы выступаю рашуча проціў. Бо сапраўды вельмі брыдка глядзець, калі здаровая, ружовая вясковая дзяўчына намажа свае губы чырвонай хварбай, а румяны тварык выпэцкае крэмам, накладзе пудры, ды ў цадатку ногці памалюе на чырвона. Бракуе тады толькі, каб зацягнуць яшчэ колца ў нос, а быў-бы поўны абраз папуанскай ці якой іншай жыхаркі дзікога краю. Даходзіць так-жа ўжо й да таго, што вясковыя дзяўчаты выголіваюць бровы, а замест іх робяць дзьве чорныя рыскі, ня гледзячы на тое, што фактычна такія опэрацыі шпэцяць дзяўчыну проста да брыдоты. Усё гэта выглядае сапраўды вельмі няпрыгожа, апрача таго нпздорава, бо розныя крэмы і хварбы ніштожаць скуру-цэру. Няздарава таксама зацягваць завушніцы-колцы ў вушы, ды насіць розныя гарсэты, якія затрымліваюць разьвіцьцё дзявочых органаў, што пасьля, калі дзяўчына стаецца кабетай, вельмі цяжка адчувае.

Дык, даражэнькія дзяўчаткі, і мілыя беларускі! Кіньце сьляпую дагонку за модай. Далоў крамніна, а няхай жыве самадзел! — Гэты кліч няхай разьлягаецца па нашых вёсках і хутарох! Ён ёсьць ня толькі нам карысны, ня толькі патрэбны, але і модны, бо нават і меставыя харашухі гоняцца за самадзелам. Трэба кінуць так-жа маляваньне губаў, твару і рук. Гэты благі звычай няхай не знаходзе ў нас месца. Калі-ж хочаце, каб ваш твар быў румяны, дык мыйцеся штодзень чыстай сьцюдзёнай вадой і вы будзеце куды прыгажэйшымі за меставых маляваных ляляк. Памятайце, што дзьве кабеты: Діана Пуат'е і Нінон дэ-Ланклю, ведамыя як гістарычныя харашухі, да глыбокай старасьці захавалі сваё дзявочае хараство ня ўжываньнем розных касмэтычных штучак, а толькі дзякуючы таму, што кожны дзень абмывалі сваё цела чыстай крынічнай вадой.

*Ваш прыяцель — Р. Б.*

# Што дзеецца ў б. беларускім інтэрнаце?

У мінулым годзе, як ведама, беларускі інтэрнат у Вільні ўлады перайменавалі на інтэрнат „Зем Пулноцно-Всходніх." Сёлета да сотні беларускіх вучняў у гэтым інтэрнаце далучылі трох палякоў і ўжываньне беларускае мовы ўжо быццам агранічана, бо напр. рэфэраты, агульна інтарнацкія дыскусіі, паседжаньні інтэрнацкае рады цяпер павінны адбывацца папольску. Кіраўніц-

тва інтэрнату матывуе гэны загад тым, што паводле закону ў кожнай гаспадарственнай установе павінна быць польская мова; дык калі інтэрнат стаўся гаспадарственным, то ў ім павінна быць уведзена польская мова. Пры гэтым кіраўнікі інтэрнату праводзяць сярод вучняў „гістарычныя" гутаркі, не шкадуючы, ясна, „аргумэнтаў," каб „даказаць," што Беларускі Народ, як нацыя, ніколі не існаваў, былі толькі плямёны і г. п. Чапісаў беларускіх у інтэрнаце няма, затое поўна „Kurjera Wileńskiego."

Апрача таго, як мы ўжо пісалі, сёлета значна падвышана аплата за інтэрнат. І дзеля таго, што шмат хто з вучняў ня зможа яе ўнесьці, многім грозіць выдаленьне. На месца ж іх, хіба-ж знайдуцца вучні польскія...

Што на гэта Беларусы? Ці ўнесьлі ўжо складкі на фонд незаможнага беларускага вучня й студэнта? *ч.*

# Водгукі нашых артыкулаў аб Жыдох у жыдоўскай прэсе

Надрукаваны сёлета ў № 7 „Шляху Моладзі" артыкул п. н. „Проціўжыдоўская акцыя і беларуская моладзь" знайшоў даволі шырокі водгук у жыдоўскай прэсе. Перадусім перадрукавала яго віленская дэмакратычная штодзенная газэта „Ундзэр Тог,"якая агулам сочыць за беларускім жыцьцём і ўсе важнейшыя весткі з беларускае прэсы перадрукоўвае. Апрача гэтага артыкул гэны часткова перадрукавалі: найвялікшая штодзенная жыдоўская сыоністычная газэта ў Польшчы „Дэр Момэнт", цэнтральны орган сацыялістычнае жыдоўскае партыі „Бунд" — газэта „Фолкс-Цайтунг", орган віленскіх сыоністаў „Цайт", часапіс жыд. студ. моладзі выдаваны папольску п. н. „Kontratak" і інш.

Пасьля гэтага ў № 215 з 16.IX „Дэр Момэнт'у" паявіўся артыкул аб справе беларуска-жыдоўскіх адносінаў ведамага жыдоўскага дзеяча, пасла на Сойм, др. Г. Розмарына, які, навязваючы да выступленьня „Шл. Мол". ў жыдоўскай справе, падыходзіць да ўладжэньня гэных адносінаў з боку пазытыўнага. У № 229 з 7.X 37 „Дэр Момэнт'у" надрукавана, між іншым, карэспандэнцыя з Вільні („Момэнт" выходзіць у Варшаве), падпісаная літарамі Л. М., у якой аўтар, гаворачы аб справе антысэмітызму ў нашым краю, цытуе артыкул з „Chryścijanskaj Dumki", у якім часапіс гэты высказваецца проціў антысэмітызму, а таксама і заканчэньне артыкулу аб Б. Клецкіне з № 11 „Ш. М."

Артыкул „Крыху аб Жыдох" з „Chr. Dumki" быў таксама перадрукаваны ў „Ундзэр Тог'у" і ў жыдоўскай варшаўскай газэце, якая выходзіць папольску п. н. „Nasz Przegląd".

На тэму бел.-жыд. адносінаў быў так-жа артыкул у беластоцкай жыд. газэце „Ундзэр Лэбн", якой рэдактарам ёсьць ведамы жыд. пісьменьнік Пэйсах Каплан.

Трэба пры гэтым адцеміць, што малады таленавіты жыдоўскі паэт Каган у Вільні пераклаў на жыдоўскую мову тры беларускія народныя песьні, якія ўжо сьпявае жыдоўскі хор у Вільні. Гэты-ж паэт працуе таксама над перакладамі твораў бел. паэтаў: Танка і Машары на жыдоўскі язык.

Урэшце трэба так-жа адзначыць, што артыкулы з беларускіх часапісаў знайшлі водгук і ў польскай нацыяналістычнай прэсе, якая на ўладжаньне беларуска-жыдоўскіх адносінаў глядзіць вельмі крыва. *Я—к.*

## Što čuvać?

Padziei na śviecie ŭściaž raźvivajucca. Źjaŭlajemsia śviedkami vojnaŭ i pierahrupoŭki siłaŭ. Uvieś śviet z napružańniem hladzić u budučyniu i pytaje: što budzie dalej. I naš Narod Biełaruski i naša moładź žyva hetym cikavicca i ŭsiudy čujem pytańnie: što čuvać? Pastarajemsia tady na jaho adkazvać.

**U Polščy** 10-ha kastryčnika sioleta źjaviłasia novaja palityčnaja arhanizacyja, jakaja achryściła siabie „Partyjaj Pracy." Na čale jaje stali: hien. Haller, Karfanty, b. prezydent Vajciachoŭski i inš. vydatnyja polskija dziejačy. Sprryjaje joj, miž inšym, viedamy pijanist i kampazytar — pieršy polski premjer Padereŭski, katory žyvie zahranicaj, a taksama hien. Sikorski. „Partyja Pracy" maje być arhanizacyjaj centravoj. Hurtuje jana tych ludziej, jakija nie ŭvachodziać u „Stronnictva Ludove" i vystupajuć suproć endecyi, katoraja vyrazna jdzie fašystaŭskimi śladami. „Partyja Pracy" źjaŭlajecca, biazumoŭna vialikim kankurentam dla OZN-u i vyrazna jdzie da supracoŭnictva z ludoŭcami i Vitasam, katory choć siadzić zahranicaj, ale ŭ krai maje vialikija ŭpłyvy. Da najvažniejšych palityčnych spraŭ u sučasny mament u Polščy treba zaličyć spravu vybaraŭ u Sojm i Senat. Damahajucca hetaha ŭsie palityčnyja arhanizacyi, nia vyklučajučy navat i uradavaha OZoNu. Pry tym usie tak-ža žadajuć źmieny ciapierašniaha vybarnaha zakonu. PPS i ludoŭcy vyrazna damahajucca novych vybaraŭ na asnovach demakratyčnych. Hetaha taksama damahajecca i Biełaruskaje Narodnaje Abjednańnie. Usie uvažajuć, što sprava vybaraŭ u Sojm i Senat na asnovach demakratyčnych vielmi patrebnaja. I Biełaruski Narod pavinien i musić mieć svaich pradstaŭnikoŭ u polskim parlamancie.

**Na mižnarodnym hruncie** najvažniejšym zdareńniem za apošnija dni jošć vialikaja pramova prezydenta Złučanych Štataŭ Paŭnočnaje Ameryki – Ruzvelta, jakuju jon skazaŭ u časie svaje padarožy ŭ Chicago. Prezydent Ruzvelt — ščyry demakrat, śledziačy za raźvićciom padziejaŭ u Eŭropie j Azii, bačačy što dziejecca u Hišpanii i Kitaju, a taksama pryhatavańni Hitlera j Musolini'ha da novych vystupleńniaŭ, skazaŭ svajo važkaje słova. Ruzvelt śćvierdziŭšy, što Złuč. Štaty Paŭn. Ameryki vystupajuć suprać vajny, zajaviŭ, što niama nijakaj hvarancyi, što Ameryka nia budzie zmušana da jaje umiašacca, kali dalej mižnarodnaje prava budzie łamacca. Pahroza heta vyrazna škiravana suproć Japonii, Niamieččyny i Italii. Paśla hetaha Ameryka raspačała vialikija zbrajeńni. Pramova Prez. Ruzvelta znajšła pryjazny vodhuk uva ŭsich demakratyčnych haspadarstvach, a pieradusim u Anhlii i Francyi. I niekatoryja hazety ŭžo pišuć, što suproć fašystaŭskaha bloku— Niamieččyny i Italii, paŭstaje blok demakratyčny Ameryki, Francyi, Anhlii i inš. haspadarstvaŭ. Heta biazumoŭna mocna psuje apetyty Hitleru i Musolini'mu.

Zmahańni ŭ **Hišpanii i Kitaju** dalej adbyvajucca biaz bolšych źmienaŭ. **Japonija** vysłała ŭ Kitaj užo 350,000 vojska i bolš jak 100 vajennych karabloŭ, adnak kitajcy nie paddajucca, choć uzbrajeńnie ich słaboje. U suviazi z vajnoj u Kitaju, jakaja jošć supiarečna z mižnarodnym dahavoram 9-ci zainterasavanych haspadarstvaŭ, miž inšym Ameryki, Anhlii, Francyi, u Brukseli maje adbycca adumysłovaja kanferencyja, na ja-

koj sprava heta budzie razhledžana usiebakova.

**U Pałestynie** anhlijcy pačali pravodzić pacyfikacyju, ŭśmirajučy Arabaŭ, katoryja uściaž buntujucca suproć Anhlii i Žydoŭ.

**U Francyi** adbyvajucca vybary ŭ samaŭrady. Najbolš mandataŭ zdabyvajuć sacyjalisty. Upłyvy kamunistaŭ źmianšajucca.

Vielmi cikavyja viestki nadychodziać z **Abysinii.** Karespandent francuskaj hazety „Paris Soir" piša, što abisyncy ŭściaž buntujucca. Kala m. Dessie miž italijancami i abisynskimi paŭstancami jdzie farmalnaja vajna. 50 tysiač dobra ŭzbrojenych abisyncaŭ, majučy navat svaje novačasnyja tanki, zaniali paŭdniova-uschodniuju čaść Abisynii i adpirajuć pieramožna italijanskaje vojska. Praz Džibuti prajechaŭ niadaŭna sanitarny ciahnik, jaki vios 400 ranienych italijancaŭ, katoryja varočalisia ŭ Italiju. Dziela hetaha Musolini vysyłaje ŭ Abisyniju novyja transporty vojska. Ahułam Abisynija Italii zdajecca vyłazić užo bokam.

J. N.

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

*Ф. Аляхновіч*— **У капцюрох Г. П. У.** Выданьне аўтара. Вільня 1937 г., 160 бачын з партрэтам аўтара. Цана 60 гр.

„У капцюрох ГПУ"—гэта апісаньне перажываньняў і цярпеньняў, якія перанёс аўтар — ведамы беларускі драматург Францішак Аляхновіч, будучы ў Саветах.

Фр. Аляхновіч, бачачы ў 1926 г. даволі шырокае разьвіцьцё беларускае культуры ў СССР, ці лепш у БССР, пакінуў Вільню, дзе стала жыў, і выехаў у Саветы, як сам піша, як іх сымпатык, з думкай шырэйшае працы на беларускай культурнай ніве. Пасьля прыезду ў Менск, хутка, бо 1.I.1927 году, быў ён арыштаваны і абвінавачаны за супрацоўніцтва з арганізацыямі міжнароднай буржуазіі. У выніку гэтага быў засуджаны на 10 год вастрогу і сасланы на Салоўкі, дзе прабыў блізу 7 год.

6 верасьня 1933 году польскія ўлады выменялі Фр. Аляхновіча на ведамага беларускага дзеяча, павадыра „Грамады," пасла Бр. Тарашкевіча, які сядзеў у польскім вастрозе і якога цяпер у СССР залічылі ўжо быццам да „ворагаў народу" і магчыма, што яго спаткае тое самае, калі ня горшае, як Ф. Аляхновіча.

Вярнуўшыся йзноў у Вільню, Ф. Аляхновіч усе свае перажываньні апісаў і выдаў кніжкай п. н. „У капцюрох ГПУ." Кніжка гэта раней яшчэ выдана ўжо два разы папольску, паукраінску (выйшла сёлета), папартугальску і ў хуткім часе мае выйсьці пагішпанску.

Беларускае выданьне гэтае кніжкі саліднае, з прыгожай вокладкай. Кніжка цікавая, напісана жыва.

*K. Saksahanskaia* — **Abrazki z žyćcia.** Dramatyčny etiud u 1 dziei. Žbiełaruščyŭ M. Š. Vyd. Biełaruskaj Teatralnaj Knižnicy. Vilnia 1937 h. Bač. 13. Cana 30 hr. Pjeska „Abrazki z žyćcia"— asnuta na žyćciovych abrazkoch miaščanstva.

*Z. B.*

## З КРАЮ

### Прыгожы аб'яў.

*Зьдзецяла,* Наваградчына. Як ведама, у нас беларусаў на вёсцы ёсьць звычай, што як едуць маладыя — вясельле, то ў канцы сяла моладзь загароджвае ім дарогу, а тады малады тым, што затрымліваюць, дае нейкую суму грошаў і далей вясельле едзе без перашкодаў. Да апошніх часоў атрыманыя гэтак грошы моладзь прагівала, цяпер аднак робіць іначай. Цяпер за атрыманыя гэткім шляхам грошы моладзь супольна купляе-выпісвае беларускія кніжкі і газэты і дзякуючы гэтаму паўстаюць супольныя бібліятэкі, з якіх карыстае ня толькі моладзь, але і старэйшыя сяляне.

Пажадана, каб прыгожы гэты аб'яў пашыраўся і ў іншых кутках нашага краю. *Б. Л.*

### Na ašukanstvie daloka nie zajedzieš.

*v. Žabinka,* Hłybockaj vołaści, Dziśnienskaha pavietu. U našaj vioscy i vakolicy žychary vyklučna biełarusy, pa relihii miašanyja, z pieravahaj pravasłaŭnych. Ludzi našyja lubiać svaju biełaruskuju movu i ŭsiudy śmieła jej karystajucca. Polskaje movy nidzie nie pačuješ, chiba źjavicca jakiś „načalnik": palicyjant ci sekvestratar, ale j to naš sielanin „panašamu", a ŭradaviec pasvojmu.

U vioscy Žabinka da 1936 h. była škoła dvujazyčnaja, h. zn. vučylisia dzietki i pabiełarusku i papolsku. Nie padabałasia adnak biełaruskaja mova ŭ Žabinskaj škole prybłudziŭšamu až z Paznanščyny, „gajovamu" Berlingu i byłomu kiraŭniku Žabinskaj škoły Bahusłaŭskamu. Hetyja panki addaŭna sušyli svaje hałovy, kab vykaranić našu rodnuju movu z Žabinskaj škoły, až i prydumali: namovili ludziej da podpisaŭ niejkaj „papierki", havoračy, što heta „padanie" da inspektara, kab u Žabincy pabudavali novuju biełaruskuju školu. Ludzi drennaha nie pračuvajučy padpisali, a paśla, kali papytalisia, čamu ŭ škole nia vučać pabiełarusku, dyk adkaz atrymali, što „vy-ž sami padpisali, kab jaje nia było". Ludzi, zrazumieŭšy ašukanstva, nia viedajuć što rabić? A vučyciel z paznanščykam zadavolenyja, što ŭdałasia „misija".

I ŭ hetym 1937-8 hodzie ŭ Žabincy budzie vučyć vučycielka Ledničycha, katoraja biełaruskaj movy nia ŭmieje zusim, bo pachodzie z Haliččyny. *Płuh.*

**Ad redakcyi:** Pastupki Berlinga i Bahusłaŭskaha haniebnyja i niekaryśnyja nia tolki dla biełarusaŭ, ale i dla Polskaha Haspadarstva, bo vyklikajuć siarod nasielnictva zrazumiełaje niezadavaleńnie. Dziela hetaha ŭvažajem, što školnyja ŭłady spravu škoły ŭ Žabincy pavinny dakładna razhledzić i pakryŭdžanych, ašukanych sialan zadavolić, uvodziačy nazad u ichniuju školu biełaruskuju movu.

### Коопэрацыя пашыраецца.

*Пружана.* Сяляне ў нашым баку зразумелі ўжо, якую карысьць дае коопэрацыя і цяпер шмат дзе па вёсках паўстаюць беларускія коопэратывы. Нажаль аднак трэба сьцьвердзіць, што коопэратывы гэныя неяк ня могуць добра разьвівацца. А гэта дзеля таго, што на вёсцы няма кіраўнічых адзінак. Няма людзей, якія маглі-б гэтымі коопэратывамі належна кіраваць. Гэтай справай, на мой пагляд, павінна зацікавіцца беларуская інтэлігенцыя і зьвярнуць на яе асаблівую ўвагу, бо разьвіцьцё ў нас коопэрацыі нясе нам лепшую долю.

*Паляшук.*

# ХРОНІКА

## З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

— Паседжаньне Рады БНА. 2 кастрычніка сёлета адбылося паседжаньне Рады Беларускага Народнага Аб'еднаньня, на якім прынята рэзалюцыя, каторую ЦК—БНА выдаў асобнай брашурай, як чарговы, сёмы, камунікат БНА, які пасьля адміністрацыйныя ўлады сканфіскавалі.

—Апостальскі Нунцый і Беларусы. Ад 11 да 16 кастрычніка сёл. гасьціў у Вільні Апостальскі Нунцый—прадстаўнік Папы Рымскага ў Польшчы — арцыбіскуп Кортэзі, які адведаў наш край і 14 г. м. быў, між іншым, у літоўскім касьцеле сьв. Мікалая ў Вільні, дзе адбываюцца набажэнствы і для беларусаў каталікоў. Тут яго віталі — пробарш Кс. К. Чыбірас (літовец) і ад Беларусаў Кс. рэдактар Ад. Станкевіч. Кс. К. Чыбірас вітаў яго прамовай палаціне і ад імя Беларусаў. На гэтае прывітаньне адказаўНунцый паітальянску, пры тым дзякуючы Беларусам за прывітаньне, казаў што ён езьдзячы цяпер па нашым краю і пазнаючы Беларусаў, шчыра браў да сэрца іх рэлігійныя патрэбы і што Апостальская Сталіца мае ў сваей памяці і Беларусаў.

— Суд за лемантар. 20.Х сёл. Віленскі Гарадзкі Суд мае разглядаць справу б. дырэктара Віленскае Беларускае Гімназіі грам. С. Паўловіча, абвінавачанага за ўлажэньне беларускага лемантара лацінкай п. н. „Zasiełki", які сёлета, пасьля выхаду ў сьвет, быў сканфіскаваны.

— Зацікавіліся Бел. Нацыянальным Камітэтам. Апошнім часам Віленскія адміністрацыйныя ўлады зьвярнулі ўвагу на Беларускі Нацыянальны Камітэт. Каб вытлумачыць падставы, на якіх Камітэт існуе, ягоны характар і будову, улады клікалі старшыню К-ту інж. Клімовіча, які 8 г. м. злажыў адпаведняе высьненьне на пісьме. Ці ўлады будуць гэтым здаволены—тымчасам няведама.

— Памёр Ян Цеханоўскі. 6 г. м-ца памёр у Ашмяне Ян Цеханоўскі, б. дырэктар Беларускае Гімназіі ў Навагрудку. Па зьліквідаваньні польскімі ўладаміназванае Гімназіі, нябожчык працаваў у школе ў Ашмяне.

Вечная памяць!

— Кара за „Aświetu". Пару гадоў таму назад ведамы беларускі дзеяч др. Ст. Грынкевіч напісаў працу п. н. „Асьвета". Друкавалася яна ў „Беларускай Крыніцы", а пасьля была выдана асобнай кніжкай, і тады адміністрацыйныя ўлады яе сканфіскавалі. У выніку гэтага адбыўся Суд, які засудзіў др. Ст. Грынкевіча на 2 тыдні арышту і штраф. Нядаўна кару гэту др. Грынкевіч адбыў,—адседзяўшы 2 тыдні ў арышце і заплаціўшы штраф.

— Дзень Беларускай Культуры. За прыкладам леташняга году, Віленскія Беларусы й сёлета рыхтуюцца да ўрачыстага сьвяткаваньня Дня Беларускай Культуры. Сьвяткаваньне гэтага Дня прадбачыцца ў нядзелю 28 лістапада сёлета.

— Канфіскаты. 13.Х сёлета віленскія адміністрацыйныя ўлады сканфіскавалі № 16 беларускага гаспадарскага часапісу „Самапомач" за артыкул пад назовам „Палесьсе" (другі наклад „Самапомачы" ня выйшаў, бо першы быў разасланы). 11 г. м. тыя-ж улады сканфіскавалі „Беларускі соньнік".

— Доўга радзіўся, а нарадзіўшыся сьвету ня бачыць. Ужо тры гады як на зычэньне школьных уладаў і Гасп. Выдавецтва школь. кніжкаў група бел. вучыцялёў у Вільні апрацавала беларускі падручнік-чытанку „Нашая праца" для 3 кл. пач. школы. Ужо 3 гады як рукапіс быў зацьверджаны Міністэрствам Асьветы і толькі сёлета ў верасьні надрукаваны. Прыпадкам нам удалося яго бачыць. Падручнік малы. Меншы як адпаведныя польскія, а цана затое вялікая. Бо калі польскіх цана 1,10 зл., то беларускіх—2,50 зл. і за гэтыя грошы яго немагчыма дастаць, бо выдавецтва не дало яго дасюль кнігарням прадаваць.

—х—

— Беларускай моладзі ў Латвіі не пазваляюць выдаваць свой часапіс. Даведваемся, што беларуская моладзь у Латвіі ўжо тры разы прасіла дазволу ў латвійскіх адміністрацыйных уладаў на выдаваньне свайго беларускага часапісу, аднак улады гэныя дазволу не далі. Беларуская моладзь у Латвіі агулам ня падае духам і як толькі можа ўсюды працуе на карысьць Беларускага Народу.

## USIAČYNA

— Na pačatku m-ca kastryčnika siol. ŭ Varšavie Ŭrad spyniŭ dziejnaść hałoŭnaje ŭpravy „Związku Nauczycielstva Polskiego", i naznačyŭ specyjalnaha kuratara — kiraŭnika, jaki maje dalej kiravać hetaj arhanizacyjaj. Stałasia heta dziela taho, što byccam u „ZNP" była pravodžanaja kamunistyčnaja dziejnaść.

— U kancy minułaha hodu ŭ David-Haradku na Paleśsi, u časie zakładzinaŭ fundamantu pad novuju pravasłaŭnuju carkvu, rabotniki natrapili ŭ ziamli na niejkija astatki staroj budovy i truny. Paśla dośledaŭ navukoŭcaŭ akazałasia, što tam adkapali staradaŭny zamak-haradzišča, jakoje było pabudavana, pryblizna, u XII stahodździ, adkapanyja-ž truny źjaŭlajucca byccam trunami staradaŭnich kniazioŭ. Sioleta ŭ kastryčniku miesiacy pry dalejšych raskopkach znajdzieny byli dźvie siarebranyja kniazioŭskija buławy, a taksama ŭdajecca dobra adkopvać dalejšyja častki zamku.

Raskopka ŭ David-Haradku, na Paleśsi, dzie kaliś žyło biełaruskaje plemia Dryhvičoŭ, maje vialikaje značeńnie asabliva dla nas Biełarusaŭ, bo budzie pamahać u pracy historykam nad našaj minuŭščynaj. Apračа David-Haradka, vialikija raskopy i doślady praviedzienyja byli paru hod tamu ŭ Horadni kala zamkavych muroŭ, dzie taksama znojdziena staroje haradzišča.

— 4.X.37 h. u Niaśviskim paviecie, kala vioski Pietuchoŭščyna, adkryty vialikija zaležy vysoka pracentovaje zaležnaje rudy. Adkryćciom hetym zacikaviłasia ŭžo adumysłovaja kamisija, jakaja na miescy praviadzie padrabiaznа doślady. Ahułam treba skazać, što ziemli našyja jšče dobra nie daśledžany i ani my, ani chto inšy nia znajem, jakija majem bahactvy.

—U vakolicach Maładečna z pryčyny ciopłaje vosieni sioleta začvili druhi raz višni i pajavilisia novyje zialonyja listočki. U- adnaho-ž z ułaśnikaŭ sadu druhi raz zaviazalisia maliny. Čvili jany ŭ m-cy vieraśni. Novyja jahadki krychu tolki mienšyja, jak narmalna byvali.

— 30-ha vieraśnia sioleta i ŭ pieršych dniach kastryčnika nad Vilniaj źjaviłasia viečaram palarnaja (paŭnočnaja) zara, u formie čyrvonaha staŭba. Bačyli jaje ludzi i ŭ inšych kutkoch našaha kraju, a ŭ Lidzie navat zaalarmavanaja była pažarnaja straž, bo dumali, što dzieś niedaloka paŭstaŭ pažar. Ludzi havorać, što takaja zara jość pradvieśnicaj vajny, revalucyi, zabureńniaŭ i niaščaściaŭ. A jak jość sapraŭdy — niaviedama.

— U Hišpanii pa staranie ŭradu, jak viedama, vajuje šmat achvotnikaŭ z roznych krain. Miž inšym jość tam i biełarusy. Hazet,y pišuć, što nad adnym z mižnarodnych bataljonaŭ palityčnym kamisaram-kamandziram jość biełarus, Tamašević.

— Hazety pišuć, što sioleta ŭradžaj zboža ŭ Polščy słabiejšy na 30 prac., jak u minułym hodzie.—Polski-ž cukar zahranicaj taniejšy byccam 8 razoŭ,jak u Polščy.



Kitajskaje partovaje miesta, Nankin, časta bombardavanaje japonskim vojskam.

## PRAKTYČNYJA RADY

**Aharod uvosieni pavinien być čysty.** Uvosień, paśla zboru pładoŭ, u aharodzie nia možna pakidać nijakich astatkaŭ raślinaŭ, jak byllo i inš. Bo astatki henyja źjaŭlajucca vielmi dobraj schovaj dla roznaha rodu škodnikaŭ i zarodkaŭ chvarobaŭ aharodniny. Dziela hetaha ŭsie astatki na aharodzie treba čyścieńka źbirać.

**Jak źbirać hryby.** Źbirajučy hryby ŭ lesie nia možna vyryvać, a treba nožykam vyrezvać. Bo kali my rviom, dyk vyryvajem i kareńnie hryboŭ i tady na henym miescy novyja hryby nie rastuć. Kali-ž hryby vyrezvajem nažom, tady kareńni astajucca i chutka vyrastajuć novyja hryby.

**Što rabić, kab masła chutčej źbiłasia.** Kali masła ŭ maślenicy doŭha nia źbivajecca — treba ŭ maślenicu (bojku) ŭlić krychu śviežavydajenaha małaka. Tady masła vielmi chutka sabjecca.

**Jak nistožyć pacukoŭ.** Treba źbirać korki ad starych butelak, parezać ich na drobnyja kavałački j sasmažyć z łojem abo šmalcam. Paśla, jak heta zastynie, pakryšyć na drobnyja kavałki i pałažyć kala noraŭ pacukoŭ. Kali jany heta źjaduć, to napeŭna pazdychajuć.

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

B. K.: Vieršy słabyja i da druku nie padchodziać. Bieł. pravapis i hramatyku možacie vypisać z kiharni „Pahonia": Vilnia, Zavalnaja 1. Pišycie karespandencyi.

J. P.: Vieršy słabyja, bolš čytajcie bieł. knižak, pryhladajciesia jak inšyja pišuć i bolš pracujcie nad saboj.

М. Вольнаму: За мілае пісьмо шчыра дзякуем. З матарыялаў будзем карыстаць.

П.: Твор „Восеньню", як бачыце, друкуем. Зьвярніце ўвагу на папраўкі.

Б. Л. і Паляшуку: Карэспандэнцыі друкуем і просім пісаць часьцей.

П. Л—бачку: Курсы пакуль-што не прадбачацца, арганізацыяў бел. моладзі няма. Кніжкі радзім купіць гэткія: „Шляхам жыцьця" — Купалы, „На прадвесьні" — Машары, „Журавінавы цьвет" — Танка і інш.

## А ўсё-ж-такі скажэце...

„Бел. Фронт" у адказ на зацемку з № 10 „Шляху Моладзі" п. н. „Праванацыя ці бязглузьдзе", піша, што мы пачалі з ім палеміку на тэму адносін да ажыўленьня дзейнасьці „Зьвязу", а так-жа на тэму спробаў польска-беларускага збліжэньня. Тымчасам мы й ня думалі гэтага рабіць. „Бел. Фронт" у гэтых справах Амэрыкі не адкрыў і нічога новага не сказаў. Мы ў сваей зацемцы зьвярнулі толькі ўвагу на правакацыйна-жандарскі характар і падыход „Беларускага Фронту" да справы ажыўленьня дзейнасьці „Зьвязу" і да зьместу нашага артыкулу п. н. „З блуднага кола польска-беларускіх адносінаў".

Рэдактару „Бел. Фронту" выгадней было назваць гэта палемікай і ён не адказаўшы на нашае пытаньне: што значыць гэткі ягоны падыход, шырока распісаўся, успамінаючы нават бацькоў і дзяцей (гэта мусіць з жалю, што сам ён і ягоная рэдакцыйная калегія бяздзетныя), ды ўсё-ж дамагаецца сказаць „хто такі" гэна „таемная рука", бо й народ—кажа—павінен ведаць, хто ягоны прыяцель, а хто вораг? — Вось-жа справа гэта ўсім добра ведамая і ясная. Народ добра знае, хто ягоны прыяцель, а хто вораг. Ня можа гэтага чамусьці зразумець толькі рэдактар „Б. Фронту", але мы яму выясьняць і на пытаньні жандарскага характару адказваць ня будзем.

## Krychu śmiechu.

### U škole.

— Skažy mnie, Viedalski, jaklja bačym zaŭvahi, što ziamla krucicca kala sonca?

— Panie vučyciel, ja jašče hetaha nie paśpieŭ zaŭvažyć!..

### Baćka i syn vučań.

— Nu, byvaj, synku, zdaroŭ, jedź, vučysia, a jak tabie budzie patreba bolš hrošaŭ, dyk prysyłaj, piśmo.

— Tata, to moža Vy lepš adrazu vaźmiecie z saboj majo piśmo...

*Часапіс рэдагуе Рэдакцыйная Калегія.*
*Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар Я. НАЙДЗЮК